# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.pahonia.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 8 (570)
Жнівень 2013 г.


# Марш Паняволеных Народаў

У нядзелю 14 ліпеня на Мангэтане прайшоў традыцыйны Марш Паняволеных Народаў, якім быў адкрыты штогадовы Тыдзень Паняволеных Народаў. Камітэт Паняволеных Народаў праводзіў яго ўжо ў 55-ы раз, згодна з Грамадзкім Законам 86-90, які быў у 1959 годзе прыняты Кангрэсам ЗША і падпісаны прэзыдэнтам Д. Д. Айзэнгаўэрам.

Створаны прадстаўнікамі краінаў, паняволеных савецкім камунізмам, Камітэт Паняволеных Народаў каардынаваў дзеяньні этнічных групаў з Усходняй Эўропы, Сярэдняй Азіі й іншых нерасейскіх народаў колішняга СССР з тым, каб уплываць на амэрыканскую палітыку ў дачыненьні да камуністычных краінаў. Прадстаўнікі Паняволеных Народаў, сярод якіх былі й дэлегаты беларускіх арганізацыяў у ЗША, праводзілі супольныя акцыі, як у рамках Тыдня Паняволеных Народаў, што праводзіўся ў ліпені месяцы, так і цягам ўсяго году. Мітынгі, дэманстрацыі, акцыі каля Статуі Свабоды, выступы амэрыканскіх прэзыдэнтаў прыцягвалі да падзеяў Тыдня і да становішча Паняволеных Народаў увагу шырэйшага амэрыканскага грамадзтва, дапамагалі ўплываць праз сэнатараў і кангрэсмэнаў на стаўленьне Амэрыкі да камуністычных урадаў Эўропы й Азіі. Аднак калі ў 1989-1991 гадох амаль усе колішнія паняволеныя народы вызваліліся ад савецкай камуністычнай тыраніі, большасьць усходнеэўрапейскіх этнічных арганізацыяў ЗША адыйшла ад актыўнай падтрымкі дзейнасьці Камітэту Паняволеных Народаў. Тымчасам у Беларусі савецкую тыранію зьмяніла постсавецкая. Заміж былога камунізму Беларусь у 1994 годзе стала ахвяраю аўтарытарнага рэжыму, які стварыў "усенароднаабраны" Лукашэнка. Пасьля аднаўленьня незалежнасьці й кароткага "глытка свабоды" Беларусь зноў стала паняволенай нацыяй. Адбылася, па словах Зянона Пазьняка, яе ўнутраная акупацыя.

Таму беларуская грамада Амэрыкі вырашыла не губляць сувязяў з Камітэтам Паняволеных Народаў і карыстаць з імпрэзаў Камітэту, у тым ліку і з Маршу Паняволеных Народаў, каб даносіць да амэрыканскага народу і да ўсіх народаў сьвету інфармацыю аб тым, што адбываецца ў Беларусі, заклікаць дапамагчы беларускай апазыцыі аднавіць грамадзянскія свабоды і правы чалавека ў Беларусі, а таксама спыніць русіфікацыю і вынішчэньне беларускай нацыянальнай культуры. Дзеля гэтага прадстаўнікі беларускай грамады рэгулярна выходзяць на Марш Паняволеных Народаў, на якім ужо каторы год пераважаюць беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі.

Сёлетні 55-ы Марш Паняволеных Народаў пачаўся, як звычайна, зборам удзельнікаў ля Пуліцар-фантану пры гатэлі "Пляза", што на Пятай авэню. Затым удзельнікі імпрэзы прайшлі па Пятай авэню да сабору сьв. Патрыка, дзе перад дзьвярыма прадстаўнікоў Паняволеных Народаў дабра-

*Заканчэньне на бачыне 3*



# Ліпеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу 13 ліпеня ў Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы ліпеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка прывітаў прысутных і коратка распавёў пра арганізацыю "Пагоня" для тых, хто прыйшоў на сход арганізацыі ўпершыню. Затым сп. Зайка спыніўся на становішчы ў Амэрыцы і адзначыў, што бягучы момант досыць складаны, і цяпер, у пэўным сэнсе, вырашаецца лёс Амэрыкі ў такіх справах як судовы працэс над Джорджам Цымэрманам, напалову белага і напалову лацінаамэрыканскага паходжаньня, што ў лютым 2012 году застрэліў у мэтах самаабароны чорнага падлетка. Пасьля таго, як паліцыя і пракуратура не знайшлі ў дзеяньнях Цымэрмана складу злачынства, чорныя актывісты кшталту А. Шарптана і Дж. Джэксана пачалі падбухторваць нацменшасьці на праяву расавай салідарнасьці й на помсту. Дэпартамэнт юстыцыі даслаў сваіх супрацоўнікаў паспрыяць пашырэньню мітынгаў пратэсту. Была заведзеная крымінальная справа, і вось акурат сёньня, 13 ліпеня, чакаецца вердыкт прысяжных засядальнікаў. У выніку шматгадовага змаганьня левалібэральных сілаў супраць такіх падвалінаў амэрыканскага грамадзтва, як лідэрская роля ЗША ў сьвеце, сям'я і прыватнае прадпрыймальнітва, цяпер пад пагрозаю апынуліся і прэзумпцыя нявінаватасьці зь вяршэнствам закону.

Прамоўца зрабіў экскурс у гісторыю такіх плыняў левалібэральнай думкі, як мультыкультуралізм і падліткарэктнасьць, што абвяшчаюць гісторыю ЗША "гісторыяй рабаваньня і злачынстваў" і фактычна ня робяць розьніцы паміж дэмакратыяй і тыраніяй. У выніку справа дапамогі апазыцыйным сілам Беларусі збоку афіцыйных структураў ЗША амаль спынілася, і тая непасьлядоўная і сьціплая дапамога, што была за часоў прэзыдэнта Буша, сёньня выглядае немалым дасягненьнем, якога няма як спадзявацца ад прэзыдэнта Абамы, што, па ягоных уласных словах, "лідыруе ззаду" у міжнародных адносінах.

Затым перад прысутнымі выступіў кіраўнік арганізацыі "Беларусы ў экзылі" Дзьмітры Шчыгельскі. Ён распавёў пра заплянаваную на 20 ліпеня супольную акцыю трох беларускіх арганізацыяў – "Пагоні", БАЗА і "Беларусаў у экзылі" перад Міжнародным Валютным Фондам у Вашынгтоне з выказам пратэсту супраць выдзяленьня крэдыту МВФ для рэжыму Лукашэнкі. Сп. Шчыгельскі адзначыў, што амаль усе сродкі, якія рэжым Лукашэнкі атрымлівае з-за мяжы, ідуць на падтрыманьне рэпрэсіўнага апарату і так званых "сілавікоў" – тысячаў паслугачоў рэжыму, якіх нацкоўваюць на апазыцыю і кідаюць разганяць мітынгі й дэманстрацыі. Цяпер дзяржаўная запасычанасьць Беларусі складае 36 мільярдаў даляраў, па 3400 даляраў на кожнага жыхара. З новымі крэдытамі запазычанасьць натуральна павялічыцца, але галоўнае – на якія мэты пойдуць тыя грошы? Таму акцыя будзе праходзіць у выглядзе 40 Лукашэнкаў, з маскамі з выяваю дыктатара, якія будуць прасіць грошай у МВФ: "Дайце грошай на разгон дэманстрацый", "Крэдытуйце кантроль над інтэрнэтам", "Дайце грошай на турмы", "Прафінансуйце АМАП і КГБ". Прамоўца адзначыў важнасьць спыненьня фінансаваньня для рэжыму Лукашэнкі, што ёсьць хіба адзіным адчывальным сродкам уплыву на рэжым.

Прысутныя мелі мажлівасьць запісацца на паездку ў Вашынгтон для правядзеньня акцыі.

Пасьля адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу, прагучалі аб'явы й паведамленьні.

Затым пры трунках і пачастунках прысутныя маглі адзначыць 98-я ўгодкі найстарэйшага дзеяча беларускай грамады ў Амэрыцы сп. Антона Шукелойця, які, нажаль, ня змог прыехаць на ўшанаваньне.

***Віталь ЗАЙКА***



*Сп. Д. Шчыгельскі гутарыць зь сяброўкамі "Пагоні"*

# Марш Паняволеных Народаў

***Заканчэньне з бачыны 1***

славіў кардынал Нью-Ёрскай дыяцэзіі Тыматы Долан. Потым прысутныя на акцыі ўнесьлі да алтара нацыянальныя сьцягі, і адбылася імша за Паняволеныя Народы, якую правіў кардынал Долан. Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы ў суправаджэньні паліцыі прайшлі Маршам па Пятай авэню.

Нягледзячы на сьпёку, у Маршы прынялі ўдзел шмат беларусаў, лунал бел-чырвона-белыя сьцягі, а таксама сьцягі Кубы, Эстоніі й земляў Усходняй Нямеччыны, што сталі часткаю Польшчы й Расеі. Удзельнікі несьлі плякаты, гучэлі лёзунгі “Жыве Беларусь”, “Беларусь – так! Лукашэнка – не! ”, “Лукашэнка мусіць сыйсьці! ”, “Мы хочам дэмакратыі і свабоды”, “Далоў камунізм”. Мінакам тлумачылі мэты Маршу, і нагадвалі пра ахвяраў камунізму – 150 мільёнаў людзей, пра якіх нельга забываць.

Удзельнікі дайшлі да 59-й вуліцы, а потым па ёй прайшлі да Шостай авэню, дзе нападалёку ад конных статуяў змагароў за свабоду Балівара і Хасэ Марці прайшло адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў, якое вёў сакратар Камітэту Паняволеных Народаў Яан Куўм, прадстаўнік Эстоніі й Кубы. Удзельнікі прамовілі прысягу амэрыканскаму сьцягу, прасьпявалі гімн ЗША.

У прамове сп. Куўм паведаміў пра сьмерць старшыні Камітэту Паняволеных Народаў Горста Уліха (1935-2013), прадстаўніка Ўсходніх Прусаў. Ён распавёў пра жыцьцёвы шлях шматгадовага старшыні Камітэту, які 9-гадовым мусіў ратавацца са сваёй сям’ёй ад наступу арміі дыктатара Сталіна і ў выніку стаў адным з 17 мільёнаў выгнанцаў, шмат зь якіх загінула. Гэта была найвялікшая масавая міграцыя насельніцтва ў 20-м стагодзьдзі, але пра гэтую трагічную старонку гісторыі па розных прычынах лічаць за лепшае ня ўзгадваць нават у сёнешняй Нямеччыне, ня кажучы пра краіны, што захапілі ўсходненямецкія землі. Горст Уліх прысьвяціў сваё жыцьцё справе аднаўленьня справядлівасьці і лічыў сваіх землякоў адным з паняволеных народаў, браў актыўны ўдзел у дзейнасьці Камітэту. Зь ягонай дапамогай адбылася кампанія Рональда Рэйгана ў Нью-Ёрку ў 1980 годзе, што пачалася акурат на Тыдні Паняволеных Народаў. У 1989 годзе ён дапамог арганізаваць масавы мітынг каля штабкватэры ААН, неўзабаве пасьля якога быў разбураны Бэрлінскі мур. Горст і ягоная жонка Эва былі таксама гасьцямі беларускіх арганізацыяў.

Затым сп. Куўм адкрыў Тыдзень Паняволеных Народаў і прывітаў удзельнікаў. Пасьля яго з прывітаньнямі выступілі колішні кангрэсмэн Майкл Раян, прадстаўнік Таварыства сьв. Пія X Джэфры Сьміт і Маршал сёлетняга параду сп-ня Юта Курман, прадстаўніца Эстонскай Жаночай Фэдэрацыі. Сп-ня Курман прывітала прысутных і распавяла пра небясьпеку пакрыёмага аднаўленьня камунізму, якое сёньня назіраецца ў Амэрыцы. Яна падзялілася з прысутнымі сваімі ўспамінамі пра захоп Эстоніі Саветамі ў 1940 годзе, пра масавыя вывазкі эстонцаў у Сібір, пра перасьлед змагароў за аднаўленьне эстонскай незалежнасьці. Сп-ня Курман пажадала посьпехаў змагарам за свабоду Беларусі. Прысутныя павіншавалі яе са 100-годзьдзем. Можна толькі падзівіцца энэргіі й матывацыі гэтай жанчыны, што прысьвяціла жыцьцё дапамозе сваёй Бацькаўшчыне.

Сп. Куўм паінфармаваў прысутных пра падзеі Тыдня Паняволеных Народаў, а сп. Віталь Зайка прачытаў рэзалюцыю ўдзельнікаў Маршу, у якой, між іншага, было запатрабавана спыніць рэпрэсіі ў Беларусі й дапамагчы апазыцыйным сілам усталяваць сапраўды вольную і дэмакратычную сыстэму ўраду ў Беларусі.

***Віталь ЗАЙКА***






# “Галгатня пра ЗыШыА”

## My car, my rules

Свой першы дзень у Канзасе памятаю, быццам гэта было ўчора. Кіруючыся бясконцай наіўнасьцю, я вырушыў у пошуках прадуктовай крамы. Ня вельмі мо й эксцэнтрычна, каб ня той факт, што выправіўся пехатой... Прайшоўшы добрую вярсту-паўтары, урэшце, дабалокся да нечага, што мела ўсе вонкавыя прыкметы местачковага цэнтру. Запыхаўшыся, заліты потам (на двары +37 градусаў па Цэльсію), зь перасохлым горлам, пытаюся ў абарыгенкі, дзе найбліжэйшая крама. Тая кажа, што зусім недалёка, усяго нейкіх мілі дзьве адсюль. Кажучы гэта, яна сядае ў вялізарны трак і зьяжджае ў далёкія далі.

Амэрыка створаная для перасоўваньня на машыне. Некаторыя гарадкі гэтак расьцягнутыя, што часам, праяжджаючы праз іх, падаецца, ты ўжо мусіў пабываць як мінімум у трох розных штатах. Што тут дзівіцца, калі ў кожнага па прыватнай хаце, мустангу-форду-доджу-шэўралету ў гаражы, і гэта пры кошце бэнзыну па даляры з грошам за літар. Ідучы пехатою, чалавек пагаджаецца на статус дзівака. „Дзю ю нід э райд?” – нярэдка можна пачуць пытаньні спагадлівых кіроўцаў машын. Ну і дуй, калі падабаецца быць не такім як усе. Пра цягнікі і аўтобусы ў цэнтральнай частцы Злучаных Штатаў Амэрыкі можа і чулі, але ніколі імі не карысталіся. Самаходам зручней, хутчэй і таньней. А да гэтага трэба дадаць амэрыканскае замілаваньне да ўсяго вялікага. Кажуць нават, што некаторыя аўтаканцэрны пачалі прадукаваць здаравезныя паўгрузавікі, каб даць амэрыканцам адчуваньне велічы. Але для амэрыканца аўто – гэта больш чым гонар ці штодзённая патрэба. У наш час гэта яшчэ і адзін з элемэнтаў асабістай незалежнасьці. І хай хоць адзін экатэрарыст паспрабуе адабраць у амэрыканца ягоны ўлюбёны пікапчык.

Так ці сяк, далёкія падарожжы па амэрыканскіх дарогах трэба аднесьці да самых вялікіх прыемнасьцяў, якія гэтая краіна можа прапанаваць.

***Віталь ВОРАНАЎ***




***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”(**гл. інфармацыю аб апошнім ахвяраваньні на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.pahonia.org***

## Наступны сход

**Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца **ў суботу 10 жніўня 2013 году ў Цэнтральным парку на Мангэтане.**

Месца збору:

***Увахад у Парк на скрыжаваньні 5-й Авэню і 72-й вуліцы.***

*Сход пройдзе на паляне на пагорку каля возера з чаўнамі (**The Lake with Boating**).*

*Паляна знаходзіцца на поўнач ад **Terrace Drive** і на захад ад **The Mall at Bethesda Fountain**.*

Збор: **а 10:30** раніцы.

*Паважаныя **Алена Ахмяненка, Натальля Бруй, Аляксандар Пінчукоў,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладны паштовы адрас.*

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя новаабранага скарбніка арганізацыі **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*